



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзе…

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

15 снежня 2017 года №50 (1181)


# 2018 – год Жоўтага Сабакі. Рыхтуемся загадзя

Бясспрэчна, самыя вядомыя сабакі – "касманаўты" Белка і Стрэлка. Рыхтуемся разам да Новага года, каб быць не менш зорнымі.

Не ведаеце, што каму падарыць? Універсальная падказка для кожнага выпадку на старонцы 3.

Што чакаць ад 2018 года? Аглядны гараскоп года на старонцы 8.

На фота Белка і Стрэлка пасля ўдалага вяртання на Зямлю.

Фота trmilitary.com.



## Пачынаем выбіраць "Асобу года-2017"

старонка 2

## "Прастуда ніжэй за пояс", або Чым небяспечны цыстыт

старонка 18

## Жыхары сяла Паўлаўка ў Казахстане шукаюць сваякоў віляйчанкі, пахаванай тут у 1944 годзе

старонка 21

# Віляйчанкі напісалі запыт у Адміністрацыю Прэзідэнта пра новы анкадыспансер

**ВІЛЕЙКА**

Ад 12 да 18 снежня жыхары Вілейшчыны могуць паставіць свае подпісы пад зваротам у Адміністрацыю Прэзідэнта аб будаўніцтве новага анкадыспансера ў Вілейцы, распавяла "Рэгіянальнай газеце" віляйчанка **Жанна Гардынец.**

Зварот аб будаўніцтве новага анкадыспансера ў Вілейцы ці яе ваколіцах падрыхтавала ініцыятыўная група, якая на працягу некалькіх месяцаў змагаецца за перанос гэтай установы з будынка былой турмы.

У звароце віляйчане адзначылі, што лячэнне хворых на анкалогію ў вілейскім дыспансеры не адпавядае сучасным нормам і ўяўленням пра медыцынскую дапамогу. Пры гэтым звяртаюць увагу, што не маюць ніякай асабістай зацікаўленасці і ніякіх прэтэнзій да працы медыкаў вілейскай ЦРБ.

– Подпісы збіраем па горадзе і па вёсках, – расказала "Рэгіянальнай газеце" **Жанна Гардынец**. – Цешыць, што сустракаем шмат неабыякавых людзей, якія ставяць свае подпісы і гатовыя дапамагчы.

На наступным тыдні зварот накіруюць у Адміністрацыю Прэзідэнта.

Аксана ЯРАШОНАК.

**НАВІНЫ**

## Выбралі самую прыгожую валожынку

**ВАЛОЖЫН**

У Валожынскім раённым цэнтры культуры правялі раённы конкурс "Міс Валожын-2017".

Удзельнічала 8 канкурсантак. Кожная з іх стала пераможцай у асобнай намінацыі. Удзельніц ацэньвалі па выніках пяці тураў: партфоліа, візітоўка, дэфіле ў карнавальных касцюмах, творчасць і дэфіле ў вячэрніх сукенках.

"Міс Валожын-2017" стала **Яна Ярота**, званне "Першая віцэ-міс" атрымала **Вольга Вярбіцкая**, а званне "Другая віцэ-міс" – **Карына Кашырская.**

Пераможцы атрымалі сертыфікаты на паслугі фізкультурна-аздараўленчага комплексу і касметычныя працэдуры.

## Вучні з Маладзечна і Мядзела ўзялі дыпломы па робататэхніцы

**МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ**

На базе факультэта інфармацыйных тэхналогій і робататэхнікі Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта 1 снежня адбыўся абласны конкурс па робататэхніцы "Дарога ў будучыню". У ім удзельнічалі 69 школьнікаў з устаноў адукацыі Мінскай і Брэсцкай абласцей і сталіцы.

Конкурс праходзіў па трох накірунках: "Робататэхніка", "Міні-сумо" і "Траекторыя". Удзельнікам першага прапанавалі стварыць мадэль па гатовай інструкцыі і прайграць зададзеную праграму, стварыць мадэль робата па малюнках, паведамляе Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі. Падчас спаборніцтваў па накірунку "Міні-сумо" на імправізаваным рынгу два сканструяваныя робаты павінны былі даказаць, хто мацнейшы. У "Траекторыі" ўдзельнікі мусілі сабраць робата, які па зададзенай траекторыі найхутчэй змог бы дабрацца да фінішу.

У конкурсе вызначыліся вучні з Маладзечна і Мядзела. У накірунку "Робататэхніка" дыплом другой ступені атрымаў **Мікіта Зінкоўскі**, трэцяй – **Павел Петрашка**. Спецыяльны дыплом і прыз БНТУ – у **Мікіты Часноўскага**. Усе яны – з гімназіі №10 Маладзечна.

У накірунку "Мінісумо" перамог **Серафім Нікончык**. Дыплом трэцяй ступені ў **Мікіты Жукоўскага**. Абодва – вучні гімназіі-інтэрната Мядзела. Яшчэ адзін мядзельчанін **Андрэй Маліноўскі** займеў спецыяльны дыплом і прыз БНТ у накірунку "Траекторыя".

## "Сход пад Новы год" правядуць у Смаргоні

**СМАРГОНЬ**

30 снежня ў 12:00 на цэнтральнай плошчы горада збяруцца ўсе Дзяды Марозы, Снягуркі і казачныя персанажы Смаргоншчыны.

Тут зладзяць конкурс "Сход пад Новы год".Нагодлівыя персанажы пройдуць урачыстым шэсцем ад першай школы да плошчы, паспаборнічаюць у спевах і танцах.

Аддзел інфармацыі.

# Пачынаем выбіраць "Асобу года-2017"

**Паважаныя чытачы, вось і прыйшоў час падсумаваць тое, што адбылося сёлета.**

Мы ўжо каторы раз падводзім вынікі нашым конкурсам "Асоба года". Як і штогод, выбіраем прэтэндэнтаў сярод герояў нашых публікацый, абмяркоўваем іх дасягненні, а пасля ўзнагароджваем.

**Пры выбары кандыдатаў мы ўлічвалі як дасягненні герояў, маштаб асобы, так і тое, наколькі артыкул пра іх добра чытаўся і якія водгукі мелі.**

Летась "Асобай года" стала арганізатарка "Жывой бібліятэкі" ў Маладзечне **Юлія Мароз**.

Рэдакцыя вырашыла заснаваць дадаткова дзве намінацыі – "Натхненне года", якую атрымаў невідушчы спявак **Данік Савеня** і "Учынак года", якім назвалі **Адама Мальдзіса**.

Сёлета пераможцу абярэ рэдакцыя падчас пасяджэння 22 снежня. Для нас важна таксама пачуць голас чытачоў. Таму ў спецыяльнай форме на сайце мы зладзім галасаванне за прэтэндэнтаў. Той, хто набярэ найбольш галасоў, атрымае прыз глядацкіх сімпатый.

Галасаваць можна будзе ад 15 да 26 снежня ўключна. З пераможцамі мы зробім інтэрв'ю, якое вы зможаце прачытаць у першых нумарах "РГ" 2018 года. Пераможцаў абвесцім 29 снежня.







Пераможцы конкурсу "Асоба года-2016" Данік Савеня, Адам Мальдзіс і Юлія Мароз. Фота з архіва "РГ".

## Спіс прэтэндэнтаў на ўзнагароду "Асоба года-2017"

**Маладзечна**

**Надзя Бука** выдала дзіцячую кнігу "Бася і Піглас".

Галоўны трэнер ФК "Маладзечна" **Сяргей Дараховіч**. Сёлета ён узяў у свае рукі кіраванне трэніровачным працэсам ФК "Маладзечна" і, як бы там ні было, давёў каманду да шостага месца, нягледзячы на ўсе цяжкасці.

**Віталь Качаткоў** за адкрыццё і вядзенне рубрыкі "Шахматы з Віталем Качатковым" на старонках "РГ" і выданне кнігі шахматных задач.

Кіраўніца этнаграфічнага клуба "Кола" **Воля Трубач** за папулярызацыю беларускай культуры.

Кіраўніца клуба "Пошук" **Лідзія Князева** за 30-гадовую плённую працу разам з вучнямі.

**Марына Бегункова**, якая ў межах сацыяльнага праекта падарыла маладзечанскай радзільні 60 чахлоў на кювезы.

Выкладчык музкаледжа **Аляксандр Еўдакімаў** за стварэнне дадатка "Камасутра для невідушчых".

Медыкі маладзечанскай "хуткай дапамогі" **Міхаіл Брыжоў, Аляксандр Шалаеў, Святлана Ляўковіч, Сяргей Гінько, Аляксей Бароўскі** і кіроўцы **Аляксандр Кушаль** і **Вікенцій Капыш**. Яны дасталі з таго свету 33-гадовую Вольгу Бярнат.

Мастак **Базінато**, які арганізаваў мастацкую галерэю на сметніцы.

**Вілейка**

**Жанна Гардынец** змагла згуртаваць вакол сябе ініцыятыўную групу неабыякавых віляйчанак, якія змагаюцца за перанос вілейскага анкадыспансера з будынка былой турмы.

Намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо** стварыла суполку ЖКГ "Укантакце", арганізавала фестываль моладзевых субкультур.

Кіраўнік таварыства "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка** арганізавала заняткі скандынаўскай хадой у Асіпавіцкім сельсавеце.

**Аляксей Сюдак, Максім Ціханаў** і **Аляксей Пасынкаў** за ўдзел у абароне Курапатаў ад забудовы офісамі.

**Ірына Рагун і Ірына Трубач** арганізавалі бясплатны кірмаш.

**Міхаіл Міхалевіч** за выданне кнігі "Пра Вяллю, рыбу і рыбалку".

**Юры Палонскі**, які арганізаваў фестываль "Гонар продкаў".

Аўтамеханік **Леанід Кулеш**, які вырошчвае баравікі.

**Максім Чарняўскі**, які спыніў знішчэнне гарадзішча жалезнага веку каля Арпы.

**Язэп Сцепановіч** – беларускамоўны доктар біялагічных навук.

**Валожын**

**Алена** і **Ігар Крэйнісы** за стварэнне прытулку для жывёл у Алешчанятах.

**Алесь Белы** выдаў кнігу "Сакатала бочачка" пра культуру піцця.

**Ларыса Шчарбачэвіч** – за арганізацыю ініцыятывы па навучанні маладых людзей з інваліднасцю.

**Мядзел**

Разьбяр **Юрась Камандзірчык**, які робіць драўляныя ручнікі і іншыя фантастычныя скульптуры.

**Ашмяны**

**Дзмітры Радкевіч** за знаёмства з культурай беларускіх татар.

**Астравец**

**Аляксандр Дарашэвіч**, які другі раз зладзіў прыборку Сарачанскіх азёраў, падчас якой вывезлі больш за 2 500 літраў смецця.

**Смаргонь**

Навуковы супрацоўнік Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея **Вольга Самаркіна** – за арганізацыю выставы "Рукатворныя цуды".

**Дар'я Ліс**, якая дамаглася, каб у адным з маладзечанскіх медцэнтраў усталявалі пандус.

**Ганна Мацко**, якая стала трохразовай чэмпіёнкай Беларусі па дзюдо.

**Эдзіта Бранцэвіч**, выхавальніца беларускамоўнай групы ў садку.

Калі ў вас ёсць прапановы, каго яшчэ варта далучыць у спіс, пішыце на электронны адрас **regionnews@rh.by** ці тэлефануйце па нумары **(80176) 53-78-06**.

**Можаце таксама праз гэтыя кантакты выказацца, каго вы лічыце найбольш годным тытулу "Асоба года-2017" па версіі "Рэгіянальнай газеты".**

Летась "Асобай года" стала арганізатарка "Жывой бібліятэкі" ў Маладзечне **Юлія Мароз**. Рэдакцыя вырашыла заснаваць дадаткова дзве намінацыі – "Натхненне года", якую атрымаў невідушчы спявак **Данік Савеня** і "Учынак года", якім назвалі **Адама Мальдзіса**.

"Асобай года-2015" стаў вілейскі краязнаўца **Дзяніс Канецкі**.

"Асобай года-2014" стаў на той момант вучань 11 класа з Маладзечна **Уладзімір Грахоўскі**, які выратаваў дзіцця.

Аддзел інфармацыі.

# Ламаеце галаву над падарункамі? “РГ ” дапаможа!

**Для таго, каб штогадовы пошук падарункаў на навагоднія святы не ператварыўся для вас у галаўны боль, прапануем нашу фірменную падказку.**

Проста думайце пра канкрэтнага чалавека і адказвайце на пытанні, пакуль стрэлкі не давядуць вас да запаветнага падарунка. Спадзяёмся, што нашы ідэі палегчаць вашы штогадовыя перадсвяточныя клопаты. Добрых падарункаў!

А каб святы прайшлі весялей, удзельнічайце ў нашых навагодніх акцыях. Дасылайце здымкі хатніх гадаванцаў і навагодніх цацак з гісторыяй – няхай калядныя святы будуць яшчэ цяплейшыя! Падрабязней чытайце пра гэта ніжэй.




Інфаграфіка Аляксандры ПАРХІМ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 7.12 | 14.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0252 | **2,0378** |
| Еўра | 2,3956 | **2,3937** |
| Злоты, 10 | 5,6852 | **5,6784** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4387 | **3,4463** |
| Грыўня, 100 | 7,4703 | **7,4754** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ”** | **6.12** | **13.12** |
| Еўра | 2.3850/2.4030 | **2.3850/2.3990** |
| Долар ЗША | 2.0160/2.0270 | **2.0270/2.0430** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **6.12** | **13.12** |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | **16,95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 7,13 | **6,90** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,00 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 3,85 | **3,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей “Залатая семачка”, 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 3,99 | **3,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,55 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,29 | **0,39** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,10 | **1,55** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Памідоры, 1 кг | 2,95 | **4,29** |
| Перац, 1 кг | 4,80 | **4,99** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,99 | **2,99** |
| Бананы, 1 кг | 1,79 | **1,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,95 | **3,50** |
| Гранаты, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **2,99** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,50 | **2,60** |
| Ківі, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,49 | **3,39** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,49 | **1,75** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **-** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Акцыя “Мой гадаванец” завяршаецца

**Апошні тэрмін для таго, каб даслаць фотаздымак свайго гадаванца, – панядзелак, 18 снежня.**

Нагадаем, што вам трэба даслаць на электронны адрас regionnews@rh.by сумеснае фота з вашым сабакам. Мы разам з вамі выберам не толькі сімвал Новага года, але і ўручым падарунак, каб было прыемна вам і карысна вашаму сабаку. Каб стаць пераможцам акцыі, неабходна даслаць адно фота ад аднаго чалавека.

У акцыі будуць два пераможцы – адзін на выбар рэдакцыі, другі – прыз глядацкіх сімпатый паводле галасавання на сайце rh.by.



На фота ўдзельніца №10 Аляксандра Круцкіх з Вілейкі разам са сваімі гадаванцамі – бардоскім догам Майлі і бівер ёркам Люкай.

У лісце пазначце сваё імя, прозвішча, населены пункт, нумар тэлефона і некалькі сказаў пра сваё фота і сябе. Фотаздымкі, дасланыя без апісання, да ўдзелу дапускацца не будуць. У тэме ліста абавязкова пазначце “Мой гадаванец”.

Большасць з дасланых фотаздымкаў мы размесцім і ў папяровай версіі газеты.

Усім удачы і перамогі!

НАВІНЫ

## Ля Беразінскага аўтамабіль наехаў на мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

Шостага снежня каля 12:30 на Маладзечаншчыне аўтамабіль наехаў на мужчыну.

За рулём машыны быў 56-гадовы жыхар Валожыншчыны. Ён вяртаўся з сельскагаспадарчага прадпрыемства Маладзечанскага раёна, дзе працаваў.

Па словах **Юрыя Багушэвіча**, старшага следчага РАСК, праз Беразінскае кіроўца ехаў з хуткасцю 55 кіламетраў у гадзіну. Тут ён наехаў на 48-гадовага мясцовага жыхара, які, па словах старшага следчага, невядома адкуль узяўся на праезнай частцы.

Па папярэдніх дадзеных, пацярпелы быў п'яны. Цяпер ён ляжыць у бальніцы з пераломамі абедзвюх ног, чэрапна-мазгавой траўмай, ударамі галавы. Стан пацярпелага стабільны.

7 снежня следчыя завялі крымінальную справу. Калі вам нешта вядома пра здарэнне, тэлефануйце ў РАСК па нумары 8(0176) 586784 следчаму **Раману Арцем'еву** або звяртайцеся ў кабінет 110 раённага аддзела Следчага камітэта па адрасе: Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 23.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Мядзельшчыне пад коламі машыны загінуў чалавек, які ляжаў на дарозе

МЯДЗЕЛ

Увечары 8 снежня ў Княгініне загінуў 35-гадовы мужчына, што ляжаў на дарозе.

На яго наехаў 39-гадовы кіроўца "Мазды-323". Ад атрыманых траўмаў пешаход загінуў на месцы.

Вядома, што ён быў абазначаны флікерам.

**Паводле tut.by.**

## У Красным скралі кавадлу

МАЛАДЗЕЧНА

Па матэрыялах райаддзела Следчага камітэта 7 снежня ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Крадзеж".

Справа ўзбуджаная ў адносінах нявызначанага злачынцы. Ён у перыяд часу ад 8 да 12 лістапада ў Красным скраў кавадлу з двара дома М.

Страты складаюць 200 рублёў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У Вілейцы ля "Буддэталяў" на беразе Віліі знайшлі труп мужчыны

ВІЛЕЙКА

Раніцай у суботу, 9 снежня, у вілейскую выратавальную станцыю патэлефанаваў мужчына, які паведаміў, што на беразе Віліі ля завода "Буддэталі" ляжыць цела патанулага мужчыны, распавялі ў выратавальнай станцыі.

Загінулым аказаўся 58-гадовы мясцовы жыхар. Мужчына захапляўся рыбалкай.

Па факце смерці праводзяць праверку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Вілейшчыне сутыкнуліся "Фольксваген" і "Шкода" – шпіталізавалі кіроўцу

ВІЛЕЙКА

Адбылося гэта па апоўдні 9 снежня паблізу Касцяневічаў.

31-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Фольксваген-Пасат" у накірунку Вілейкі. Калі выязджаў з другараднай дарогі, не саступіў "Шкодзе-Рапід", якая рухалася па галоўнай дарозе. Машыны сутыкнуліся. "Шкодай" кіраваў 57-гадовы мужчына, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці.

У выніку аварыі кіроўцу "Фольксвагена" шпіталізавалі з цялеснымі пашкоджаннямі ў хірургічнае аддзяленне бальніцы.

**Аддзел інфармацыі.**



# У пятніцу на пажары ў Алёхнавічах згарэў 36-гадовы мужчына

МАЛАДЗЕЧНА

**8 снежня ў Алёхнавічах здарыўся пажар на лецішчы.**

Падчас пажару ў доме быў 36-гадовы мужчына, ён загінуў. Магчымая прычына ўзгарання – неасцярожнасць пры курэнні.



Фота забяспечана Валянцінай СОПАТ.

Мяркуюць, што дом загарэўся ад неасцярожнага абыходжання з агнём пры курэнні.

**Маладзечанскі ГРАНС нагадвае асноўныя правілы пажарнай бяспекі:**

✓ печы і коміны трэба чысціць, рамантаваць, бяліць

✓ нельга распальваць печкі гаручымі і лёгкаўзгаральнымі вадкасцямі

✓ на драўлянай падлозе перад топачнай адтулінай трэба прыбіць металічны ліст памерам не менш за 50 на 70 сантыметраў

✓ каб не дапускаць перагрэву печкі, трэба паліць яе два-тры разы на дзень і не больш чым па паўтары гадзіны

✓ за тры гадзіны да сну варта спыніць паленне печкі, каб не ўчадзець.

✓ Выратавальнікі рэкамендуюць паставіць пажарны апавяшчальнік. Не пакідайце дзяцей дома адных, хавайце ад іх запалкі.

Памятайце, самай распаўсюджанай прычынай пажараў і смерці людзей у іх з'яўляецца курэнне ў ложку ў нецвярозым стане.

Выкананне правілаў захавае жыццё вам і вашым блізкім.

**Валянціна СОПАТ, інспектар групы прапаганды Маладзечанскага РАНС.**

## Маладзечанская міліцыя шукае двух мужчын, якіх падазраюць у злачынстве

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі РАУС шукае двух мужчын, якія мелі дачыненне да здзяйснення цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

Прыкметы першага: на выгляд 45-50 год, рост каля 165 сантыметраў, сярэдняга целаскладу. Круглы маршчыністы твар, шырокія скулы. Апрануты ў цёмную шапку з адваротам, цёмную куртку. Ад адзення ідзе непрыемны пах. Можа мець газавы балончык. Верагодна, злоўжывае спіртным.





Прыкметы другога: на выгляд 50-60 год, рост каля 170-175 сантыметраў, сівы, з абвіслым жыватом. Апрануты ў чорную майку і светла-зялёныя штаны з чорным рэменем.

Грамадзян, якім штосьці вядома пра гэтых мужчын, просяць патэлефанаваць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8 (0176) 771656, 749855, 8 (029) 2695821, 8 (029) 8705524, 8 (029) 7617525, 102.** Гарантуюць ананімнасць і грашовае ўзнагароджанне.

**Маладзечанскі РАУС.**

## У Вілейскім раёне згарэла царква

ВІЛЕЙКА

9 снежня гарэў храм у вёсцы Рэчкі Вілейскага раёна. Агонь пашкодзіў дах і перакрыцці.

Як інфармуе МНС, паведамленне пра пажар паступіла ў 11:28. Гарэў прыход храма Святога Духа.

У выніку знішчаны дах, перакрыцце і маёмасць у будынку. Пацярпелых няма. Прычына пажару высвятляецца.

Царква была пабудаваная ў 1852 годзе, у 2014-м там праходзіў капітальны рамонт.



Фота tut.by

## Міліцыя шукае мужчыну, які знік у 2015 годзе

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі РАУС шукае без звестак зніклага Мікалая Пятровіча Еліна.**



Мужчына нарадзіўся ў Расіі, а жыў у вёсцы Хажова на вуліцы Крынічнай, 3-1.

У снежні 2015 года ён паехаў у пасёлак Кудзінава, што ў Маскоўскай вобласці, Нагінскім раёне Расіі. Да сённяшняга дня месца яго знаходжання невядомае.

Прыкметы: на момант знікнення выглядаў на 30 год, худы, рост каля 170 сантыметраў. Авальны твар, сярэдні лоб, блакітныя вочы, прамы нас, кароткія светла-русыя валасы. Пра адзенне звестак няма.

РАУС пераканаўча просіць чытачоў, якія нешта ведаюць пра месцазнаходжанне Мікалая Пятровіча Еліна, паведаміць па тэлефонах: **8(0176) 749683, 8(0176)771656 або 102.**

**Маладзечанскі РАУС.**

# Адключэнні цяпла не ў сезон будуць працягвацца і далей

МАЛАДЗЕЧНА

**Многія маладзечанцы сутыкнуліся з праблемай, калі раптам у кватэры станавілася холадна. Памацаўшы батарэю, стала зразумела: цяпло адключылі. Але чаму ў снежні, ці камунальным службам не было лета на гэту працу?**



Пакуль не завяршыцца рэканструкцыя цепласетак, цяпло будуць адключаць і далей.

Патлумачыў сітуацыю выканальнік абавязкаў намесніка дырэктара па цеплатэхнічнай частцы маладзечанскіх электрасетак **Мікалай Лушчык**.

– Год таму мы, Маладзечанскія электрасеткі, пачалі прымаць на баланс ад "Камунальніка" размеркавальныя цеплавыя сеткі. У 2017 годзе прынялі іх 65 кіламетраў.

Фактычны стан прынятых сетак аказаўся такім, што далейшая эксплуатацыя без правядзення рэканструкцыі магла прывесці да аварыйнай сітуацыі.

– Цеплавыя сеткі, што мы прынялі, перавысілі свой эксплуатацыйны тэрмін у 25 гадоў. І было б нашмат горш, каб у ацяпляльны перыяд здарыўся прарыў. Тады б падача цяпла да жылых дамоў у перыяд нізкіх тэмператур адсутнічала б не дзень, як цяпер, а дастаткова доўгі перыяд.

Дык вось каб гэтага не здарылася, у самыя кароткія тэрміны МЭС выканаў праектаванне, закупку абсталявання, мантаж трубаправодаў, выправаванні і наладку размеркавальных цеплавых сетак, якія належала аднавіць.

– На завяршальным этапе рэканструкцыі неабходна зрабіць падлучэнне зноў змантаваных цеплавых сетак шляхам урэзкі. Таму мы адключалі вуліцы Міру, Снежную. Трэба дадаць, што і ў 2018 годзе працягнецца рэканструкцыя цепласетак, таму адключэнні будуць працягвацца і надалей. На чарзе вуліца Таміліна і іншыя. У якія тэрміны будзе адключацца цяпло на гэтых вуліцах, мы паведамім канкрэтна.

Мікалай Лучшык папрасіў прабачэння ў гараджан.

– Мы разумеем незадавальненне і нязручнасці. Але гэта цяжкасці часовыя. Мы адключаем цяпло з 8 раніцы да 8 вечара. Гэта не катастрафічна, каб можна было замерзнуць. І ў мінусавае надвор'е, завяраем, што цяпло адключацца не будзе. Затое потым усё будзе добра!

**Наталля ТУР.**




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**З ЮБІЛЕЕМ!**
**Васілю Аляксеевічу ТАРКАНУ з Маладзечна**



Паважаны Васіль Аляксеевіч! Віншуем Вас з юбілейным днём нараджэння.

Жадаем моцнага здароўя, дабра, спакою, доўгага веку. Не адчувайце стомы на жыццёвай дарозе і надалей падтрымлівайце тых, хто мае патрэбу ў дапамозе. Няхай над вамі заўсёды будзе сонечнае неба, а побач – надзейныя сябры і тыя, хто Вам бязмежна дарагі.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Опель-Астра Ф, 1,6 мона, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*



- Пежо-205, 605 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- ФВ-Пасат, 2010 г.в, 1,6 ТДІ, універсал. Т. (8-029) 3113705.
- Хундай-Лантра, 1993 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. **ПА ПРЫВАБНАЙ ДЛЯ ВАС ЦАНЕ**. Т. (8-029) 7087762.*
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля 2016, 2 паверх, цэгла. Т. (8-029) 6119180, (8-033) 6626858.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён Гелянова. Т. (8-044) 4529416.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх, падвал, паркоўка. Т. Вэлком 324-65-69.*
- 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 40 000 руб. Т. Вэлком (8-029) 1679230.
- 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Кастрычніцкай, 42. Магчымы абмен на 1-пакаёвую кватэру + даплата. Т. (8-033) 6452435.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-029) 6305419.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 2/5, побач гімназія №10, парк, магазіны,ёсць зручная паркоўка. 98 000 рублёў. Т. (8-029) 8726237.*
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы уцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.
- Гараж і гаражныя боксы. Т. Вэлком (8-029) 3958593, МТС (8-029) 7748664.*
- Дом у в. Гатавічы Мядзельскага раёна, у 100 м ад возера Нарач. Т. МТС (8-029) 5615856.
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

### ЗДАМ

- 2-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін у Вілейцы. Т. (8-033) 6368637.*
- **3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, м-н "Зеніт", з заключэннем дагавора.** Т. (8-029) 6550799.*
- Пакой у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*
- У арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*



Фота kotovasia.net.

● ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# Чым больш вы аддаяце, тым больш да вас і вяртаецца

**Новы 2018 год будзе годам Сабакі, Жоўтага і Землянога. Вылічэнне новага года ва ўсходнім календары залежыць ад фазы Месяца. Кожны 12 маладзік вянчае новы год. Дык вось менавіта на 16 лютага 2018 года і прыпадае такі маладзік. А заканчваецца ўсё 4 лютага 2019 года. Значыць, новы год Жоўтага Землянога Сабакі пачнецца 16 лютага і будзе доўжыцца да 4 лютага 2019 года.**

### Што паспрыяе ў год Жоўтага Сабакі

У 2018 годзе можна брацца за любыя справы, бо і Сабака кідаецца ў бой, не задумваючыся пра наступствы. Сабака не любіць перамены і не імкнецца пераехаць з будкі ў хрустальны палац, але ён зробіць усё, каб жыхары Зямлі змаглі палепшыць жыллёвыя ўмовы. Тут галоўнае, верыць у цуд – гаспадар 2018 года з радасцю нам падыграе.

**Можна разлічваць і на фінансавую ўдачу – жоўты колер года прыцягне грошы.**

Канешне, Сабака не нарые вам залатыя злiткі і не прывядзе да скарбу, але тым, хто працавіты і настойлівы, можна чакаць усялякіх даброт. Жоўты колер асацыюецца з энергія сонца, ён зарадзіць нас пазітывам, бадзёрасцю і добрым настроем.

Год у цэлым спрыяльны для змен у ладзе жыцця. Нам будзе лягчэй адмовіцца ад нейкіх старых звычак і завесці карысныя новыя, змяніць месца жыхарства або пачаць амбіцыйныя прафесійныя праекты. На рабоце Сабака запатрабуе ад нас праявіць сур'ёзны падыход да дэталяў, салідныя арганізацыйныя ўменні і эфектыўнасць у выкананні адміністрацыйных задач. Але таксама не забывайце дзяліцца сваімі поспехамі, больш мець зносінаў і, па магчымасці, падтрымліваць навакольных вас людзей. Вядома, не варта сябраваць з кім папала, але агульны прынцып такі: чым больш вы аддаяце, тым больш да вас і вяртаецца. Калі мы пастараемся і ўсё зробім правільна, нас чакае вельмі стабільны, плённы год.

Каб кампенсаваць відавочны лішак энергіі Зямлі (лічыцца, што Сабака сам па сабе валодае сілай гэтай стыхіі, а ў год Жоўтага Землянога Сабакі – удвая), добра афармляць інтэр'ер, а таксама насіць вопратку ў тонах, якія сімвалізуюць іншыя прыродныя элементы: зялёны (Дрэва), сіні і чорны (Вада). Вобразна гэту параду можна растлумачыць так: дрэвы растуць і ўзвышаюцца над зямлёй, а значыць, зялёны колер у 2018 годзе прынясе ўдачу тым, хто імкнецца да духоўнага і матэрыяльнага росту. Вада, у сваю чаргу, сілкуе зямлю, робячы яе урадлівай – таму вібрацыі сіняга і чорнага колераў дапамогуць дасягнуць поспеху там, дзе ён асабліва неабходны.

Тэма сям'і і адносінаў таксама будзе вельмі важная. З тымі, хто пакуль яшчэ не сустрэў сваю пару, таварыскі Сабака падзеліцца сваім фенаменальным нюхам: нам будзе прасцей знайсці "свайго" чалавека і распазнаць "чужога". Аднак у наступныя 12 месяцаў шмат каму прыйдзецца перажыць і перыяды адзіноты: гэтыя моманты не будуць доўжыцца доўга, а пры правільным да іх стаўленні нават могуць натхніць на творчасць.

**Каб 2018 год прынёс нам шчасце, каханне і ўсялякія даброты, трэба запомніць некалькі правілаў: не брахаць па дробязях, не кусацца, верыць людзям і не гыркаць. І тады наша жыццё будзе далёка не сабачае.**

### А што са здароўем

Тут праблем не чакаецца, загартаваны Жоўты Сабака не дазволіць нам чхаць і кашляць.

**Але са шкоднымі звычкамі прыйдзецца развітацца – ён не любіць, калі марнуюць грошы на глупства, тыпу цыгарэт і алкаголю.**

А яшчэ Сабака любіць падарожнічаць і змяняць карцінку перад вачыма. У 2018 годзе можна аб'ездзіць ўвесь свет – новых сяброў будзе шмат, ды і ўражаннямі мы напоўнімся на некалькі гадоў наперад.

### Людзі, народжаныя ў год Сабакі

Тыя, хто народзіцца ў 2018 і нарадзіўся ў 2006, 1994, 1982, 1970, 1958 гадах і гэтак далей, валодаюць рысамі асобы, якія прыпісваюць іх апекуну Сабаку: ён сумленны і старанны ў любой справе, бескарыслівы ў зносінах і адданы сябрам. Валодае адкрытым вясёлым характарам і заўсёды рад новым прыгодам.

Сабака – сімвал справядлівасці, ён выказвае пратэст супраць любой несправядлівасці і не супакоіцца, пакуль не выправіць сітуацыю.

У каханні шчыры і сумленны. Ён ніколі не падмане і не здрадзіць свайму абранніку. Падобны з ім па псіхалагічным тыпе знак задыяка – гэта Шалі, а найлепшая сумяшчальнасць са знакамі Тыгра і Каня.

Лічыцца што аптымальнае прымяненне сваім талентам Сабака можа знайсці ў такіх галінах, як медыцына, адвакатура, дабрачыннасць, духоўная ці грамадская дзейнасць, выкладанне, навуковыя даследаванні. У Сабак прыроджаныя здольнасці кіраваць людзьмі. І яны не супраціўляюцца ўладзе Сабакі, бо ён справядлівы і не імкнецца разжыцца за кошт іншых. А так як Сабака працавіты, то яго справа будзе працвітаць.

### Вядомыя людзі, якія нарадзіліся ў такі год

Сярод тых, хто нарадзіўся ў год Сабакі, нямала знакамітасцяў: Леанард Ходзька, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька, Аляксандр Уласаў, Юльян Сергіевіч, Іван Чыгрынаў, Арсень Ліс, Хведар Ільяшэвіч, Барыс Кіт, Алесь Салагуб, Юльян Бакшанскі, Кейт Мідлтан і прынц Уільям, Клаўдзія Шыфер, князь Манака Альбер II, Віктор Гюго, Маці Тэрэза, Шэран Стоўн, Мадонна, Сафі Ларэн, Сільвестр Сталонэ, Брыджыт Бардо, Юры Гагарын, Голда Меір, Пётр Сталыпін, Міхаіл Лермантаў.

Марыя УРБАНОВІЧ.

# ААТ "Будаўнік" у Ашмянах – ствараем лепшае для лепшых

**По аб'ёмах вытворчасці гэта кампанія займае трэцюю пазіцыю ў Гродзенскай вобласці ў будаўніцтве. Штогод спектр работ, якія ахоплівае арганізацыя, павялічваецца, а цяпер яна ўзводзіць шэраг аб'ектаў на галоўнай будоўлі краіны – БелАЭС.**



Дырэктар ААТ "Будаўнік" Аляксандр Аляксеевіч Сазановіч.



Вучэбна-трэніровачны цэнтр БелАЭС у Астравецкім раёне пабудавалі менавіта спецыялісты ААТ "Будаўнік".

Прычыну таго, што такая магутная кампанія змагла развіцца ў невялікіх Ашмянах, работнікі таварыства бачаць у выключным таленце кіраўніка **Аляксандра Аляксеевіча Сазановіча**. Ён больш за 30 год узначальвае арганізацыю, а ў 2009 атрымаў Ганаровае званне "Заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь".

Сам жа дырэктар упэўнены, што значная доля паспяховасці заключаная ў арганізацыі структуры. Кіраўнічы апарат быў спрошчаны. Калі параўнаць з трэстамі, кампанія грунтуецца на прамым кіраванні, сціснутым да мінімуму. Тут, у адрозненне ад трэстаў, адмовіліся ад будупраўленняў. І пры гэтым "Будаўнік" абганяе па многіх паказчыках трэсты з больш складанай структурай.

Не ў апошнюю чаргу аптымізацыя выклікана і кадравай абмежаванасцю ў 16-тысячным райцэнтры. Пры гэтым кожны спецыяліст павінны дакладна ведаць сваю справу, таму што статусныя аб'екты, з якімі цяпер працуе кампанія, памылак не дапускаюць.

– Трапляюцца самыя розныя аб'екты, і ў працы над кожным трэба зразумець спецыфіку галіны, спраектаваць і выканаць усё найлепшым чынам. Калі працуеш над аб'ектамі АЭС, неабходна размаўляць на адной мове з буйнымі спецыялістамі атамнай энергетыкі. "Хутка ўваходзім у курс справы і шмат даведваемся, нагрузка, шчыра скажу, не для кожнага", – расказвае дырэктар "Будаўніка" пра прычыны поспеху кампаніі.

### Удзельнічаюць у будаўніцтве АЭС

Пра тое, наколькі слушны падыход кіраўніцтва, гаворыць узровень аб'ектаў, якія давяраюць будаваць менавіта гэтаму таварыству. На БелАЭС сярод зданых "Будаўніком" такія маштабныя і нетыповыя пабудовы, як вучэбна-трэніровачны цэнтр БелАЭС і ваенны гарадок вайсковай часці 7434 унутраных войскаў МУС па ахове атамнай электрастанцыі і прылеглай тэрыторыі. Цяпер арганізацыя працуе над шэрагам аб'ектаў на тэрыторыі самой станцыі.

**Сайт ААТ "Будаўнік": stroitel-oao.com.**

Акрамя гэтага, "Будаўнік" вядзе работы над лагістычным цэнтрам "Каменны Лог", рэалізоўвае маштабны будаўнічы праект на Глыбоччыне па рэканструкцыі пастаяннага базіснага ляснога гадавальніка, у сваім горадзе ўзводзіць жылы сектар для жыхароў Ашмяншчыны.

Начальнік участка агульнабудаўнічых работ атамнай станцыі **Дзяніс Уладзіміравіч Ханкевіч** ацэньвае работу на атамнай станцыі:

– Досвед працы на БелАЭС не параўнаць ні з адным папярэднім аб'ектам. Гэта работа складаная і ў інжынерным плане, і ў аспекце тэхналагічнай дысцыпліны. Нашы работнікі паказалі, што працуюць нічым не горш за расіян і спецыялістаў гучных мінскіх фірм. Калі муляры за тры гады перакваліфікаваліся ў маналітчыкаў, заліваюць складаныя канструкцыі, гэта ўражвае.

### Невялікія сакрэты вялікага поспеху

Начальнік аддзела кадраў **Тэрэза Станіславаўна Усачова** працуе ў арганізацыі больш за 20 год і ведае кожнага работніка, а іх сёння каля 600 чалавек. Яна адзначае, што арганізацыя развіваецца паступова, але вельмі ўпэўнена. Штогод накіроўваюцца грошы на ўмацаванне канкрэтнай галіны: адзін год – дапаможнай вытворчасці, іншы – аддзела механізацыі. Каб разнастаіць сферы паслуг, атрымліваюць новыя сертыфікаты і ліцэнзіі.

Патрэбныя для аб'ектаў будоўлі канструкцыі таварыства вырабляе само. Кампанія асвоіла дрэваапрацоўку, вытворчасць металічных і жалезабетонных вырабаў. Падлічылі, што ўласная вытворчасць значна эканоміць бюджэт кампаніі і адпадае патрэба закупляць дадатковыя канструкцыі.

У 2016 годзе за 11 месяцаў кампанія ўвяла 2287 квадратных метраў жылля. Аб'ём выкананых работ за студзень-лістапад у якасці генпадраду ў бягучых цэнах склаў 24 105 000 рублёў, уласнымі сіламі – 20 339 000 рублёў.

### Віды работ – ад земляных да аддзелачных

ААТ "Будаўнік" выконвае шырокі спектр работ і паступова яго пашырае. Вось толькі некаторыя з накірункаў працы:

– земляныя работы;
– размяшчэнне фундаментаў;
– узвядзенне маналітных бетонных і жалезабетонных канструкцый;
– мантаж металічных, драўляных, каменных канструкцый;
– засцярога трубаправодаў;
– узвядзенне даху;
– цеплаізаляцыя і фасады будынкаў;
– пракладка водазабеспячэння і каналізацыі, цеплазабеспячэння, газаправодаў і электрыфікацыя;
– аддзелачныя работы і добраўпарадкаванне тэрыторыі.

### Лідары галіны

Як пацвярджэнне высокай якасці работы кампаніі, калектыў атрымаў шэраг значных узнагарод.

Сярод іх – "Арганізацыя года" за дасягненне ў будаўнічай галіне Рэспублікі Беларусь у 2013 годзе, "Лідар галіны-2013", Ганаровыя граматы Ашмянскага райвыканкама, Гродзенскага Савета дэпутатаў, Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва.

### Таварыства на рынку больш за 55 год

Поспех таварыства асабліва ўражвае, калі даведацца, з чаго яно пачынала. У 1959 годзе была ўтвораная Ашмянская міжкалгасная арганізацыя, якая існавала за паявыя ўнёскі калгаснікаў. Будавалі патрэбныя ў той час аб'екты – кароўнікі, склады, канюшні.

Пасля шэрагу перамен кампанія ў 1994 годзе пераўтварылася ў ААТ. Нават у самых складаных канкурэнтных умовах арганізацыя застаецца сярод лідараў рынку.

### Чаму тут прыемна працаваць

У кампаніі працуюць пераважна ашмянцы, а для прыезджых прапануюцца арандаваныя кватэры. Па ўзроўні заработнай платы арганізацыя ў лідарах раёна. Сярэдні заробак сёння тут складае 784 рублі.

У ААТ "Будаўнік" нямала прыкладаў, калі працуюць сем'ямі. Брыгадзір **Віктар Эдвардавіч Антановіч** працуе з сынам **Алегам**, які ўладкаваўся цесляром. Брыгадзір **Уладзімір Купрыянчык** працуе з жонкай **Ганнай Здзіславаўнай**. Разам у кампаніі шмат год працуюць начальнік вытворчага ўчастка **Міхаіл Ермалаевіч Лапухін** і яго жонка **Зоя Мікалаеўна**, якая займае пасады сакратара і старшыні прафсаюзнага камітэта. А яшчэ сем'і **Кетрысаў**, **Усачовых**, **Юшко**, **Альшук**, **Падрэз** і многія іншыя.

Тут заўсёды адзначаюць за добрую працу. Начальнік участка **Пётр Станіслававіч Лагуновіч** выдатна кіруе работамі на будаўніцтве лагістычнага цэнтра "Каменны Лог". Прараб **Іван Іосіфавіч Гінтоўт** шчыруе на атамнай станцыі. Ветэран працы **Станіслаў Казіміравіч Гарлуковіч** адказна кіраваў будаўніцтвам мікрараёна у Ашмянах, працягвае работу і пасля выхаду на пенсію. **Тадэвуш Браніслававіч Тэжык** шмат год плённа працуе, узначальвае ўчастак сантэхнічных работ. Галоўны механік **Станіслаў Уладзіміравіч Кетрыс** неаднаразова ўзнагароджваўся за добрую працу. Начальнік цэха дрэваапрацоўкі **Мар'ян Юльянавіч Міцкевіч** выдатна сябе зарэкамендаваў як спецыяліст.

У арганізацыі ў вялікай пашане спорт. Двойчы на тыдзень таварыства арандуе спартзалу, дзе трэніруюцца работнікі разам з дырэктарам. Каманда другі год запар сярод усіх арганізацый раёна лідзіруе па выніках круглагадовай спартакіяды. Летась на базе арганізацыі адчынілі фітнес-студыю, у якой штодзень ладзяць заняткі па танцах, ёзе, фітнесу для сталых людзей, для дзяцей і іншым.

**Больш фота на сайце**




ААТ "Будаўнік" УНП 500260683





# "Прастуда ніжэй за пояс", або Чым небяспечны цыстыт

## У халоднае надвор'е актывізуюцца сезонныя хваробы, да якіх адносіцца і цыстыт

**Што ўяўляе сабой гэта захворванне, чаму яго лічаць пераважна жаночай праблемай, чым небяспечны недалечаны цыстыт і як дапамагчы сабе ў момант абвастрэння, расказала доктар-гінеколаг жаночай кансультацыі Ганцавіцкай ЦРБ Ларыса Юрчанка.**


Фота "Ганцавіцкага часу".

Ларыса Юрчанка.

**– Што такое цыстыт і чаму яго лічаць жаночым захворваннем?**

– Цыстыт – адно з найбольш распаўсюджаных запаленчых захворванняў мачавога пузыра і мочавыводзячых шляхоў. Часцей за ўсё прычынай захворвання з'яўляюцца мікробы, якія трапляюць у мочапалавую сістэму, выклікаючы там запаленчы працэс. У большасці выпадкаў гэта паталогія назіраецца менавіта ў жанчын, што звязана з анатамічнымі асаблівасцямі будовы арганізма: у жанчын мочаспускальны канал карацейшы і шырэйшы, чым у мужчын, таму інфекцыі лягчэй пранікнуць у мачавы пузыр і выклікаць яго запаленне.

Але было б няправільным сказаць, што гэта выключна жаночая праблема, якая патрабуе лячэння ў гінеколага. Дадзеная паталогія адносіцца да кампетэнцыі некалькіх спецыялістаў: уролага, гінеколага, тэрапеўта. Усё залежыць ад прычын або, дакладней, узбуджальнікаў, якія прывялі да захворвання. Гэта можа паказаць толькі комплекснае абследаванне пацыента, лабараторныя даследаванні (аналізы крыві, мачы, іншае).

Пры правільнай тэрапіі поўнае выздараўленне ад цыстыту надыходзіць ужо праз 7-12 дзён з пачатку правядзення лячэння. А вось недалечаны цыстыт часта становіцца хранічным – з'явіўшыся аднойчы, ён то заціхае, то зноў заяўляе пра сябе.

**– Як дапамагчы пацыенту ў момант прыступу?**

– Першае і самае галоўнае, каб палегчыць востры прыступ цыстыту, – піць як мага больш вадкасці – не менш за 8 шклянак у дзень. Некаторыя думаюць, што пры гэтым захворванні трэба піць меней вады, тады і боль, і іншыя праявы пройдуць. Але гэта ў корані няправільна: без дастатковай колькасці вады прыступ можа зацягнуцца надоўга. А вось дзякуючы ўзмоцненаму спажыванню вадкасці староннія рэчывы і мікраарганізмы хутка выводзяцца з арганізма, боль паступова сціхае.

Калі няма сіл трываць боль, можна звярнуцца да медыкаментознай дапамогі.

> **Лепшым рашэннем стане прыём спазмалітыкаў або анальгетыкаў, якія здымуць болевыя адчуванні. Калі няма алергіі на лекавыя травы, дапускаецца прыём фітачаёў на аснове брусніцаў, хвашчу.**

А вось самалячэннем займацца катэгарычна супрацьпаказана! Самастойны прыём антыбактэрыяльных прэпаратаў і антыбіётыкаў гарантавана прывядзе да таго, што спецыяліст не зможа ўстанавіць крыніцу і прычыну захворвання. Самалячэннем пацыент можа толькі заглушыць хваробу і прыбраць сімптомы, але цыстыт не вылечыць.

**– З-за чаго можа ўзнікнуць цыстыт?**

– Часцей за ўсё прычынай з'яўляюцца бактэрыі ці грыбкі, якія трапілі ў мачавы пузыр праз мочаспускальны канал: кішачная палачка, стафілакокі, стрэптакокі. Ці ўзбуджальнікі венерычных захворванняў – хламідыі, урэаплазмы, ганарэі і іншыя.

Прычынай цыстыту можа стаць і залішняя гігіена, якая прывяла да алергіі на сінтэтычныя сродкі – гігіенічныя пракладкі, мыла, гелі. Часам захворванне можа з'явіцца пасля палавога акту, напрыклад, пры дэфларацыі (разрыве цнатлівай плеўкі) або мела месца працяглае трэнне ў ходзе інтымнай сувязі, асабліва калі інтымнае жыццё пацыенткі нерэгулярнае.

Сезоннае абвастрэнне цыстыту нярэдка надыходзіць пасля звычайнага пераахаладжэння. На вуліцы пахаладала, але ў некаторых людзей засталася звычка апранацца лёгка, агаляць паясніцу. Некаторыя садзяцца на халодную лавачку, чакаючы аўтобус. А ў выніку – запаленне мачавога пузыра.

> **Мая парада як доктара – сачыце, каб у цяпле была сярэдзіна цела – ніз спіны і жывот.**

А таксама трэба паклапаціцца і пра цёплы, непрамакальны абутак. Тут таксама прасочваецца прамая сувязь: прамоклі ногі – абвастрыўся цыстыт. Абутак павінны быць па сезоне!

**– Да якіх ускладненняў і наступстваў можа прывесці цыстыт?**

– Гэта зусім не бяскрыўднае захворванне, як некаторым можа падацца. Не варта таксама спадзявацца на "раптам само пройдзе". Калі своечасова не правесці курс неабходнага лячэння, наступствы могуць быць даволі сур'ёзныя. Найбольшую небяспеку нялечаны цыстыт ўяўляе тым, што выклікае захворванні нырак (піеланефрыт, нефрыт). Таксама высокая рызыка пераходу захворвання ў хранічную форму, пры гэтым хранічны цыстыт, асабліва інфекцыйны (а часцей за ўсё так і бывае) – крыніца пастаянных запаленняў.

Яшчэ адным ускладненнем цыстыту з'яўляецца паслабленне сфінктэра мачавога пузыра, што можа прывесці да развіцця нетрымання мачы. Часцей за ўсё ён развіваецца ў людзей старэйшага ўзросту. Цыстыт ускосна можа стаць прычынай бясплоддзя ў жанчын: пры хранічным цыстыце, выкліканым венерычнымі інфекцыямі, назіраецца зніжэнне рэпрадуктыўнай функцыі аж да абсалютнай яе страты.

**– Якія сімптомы часцей за ўсё ўзнікаюць? Ці заўсёды ёсць балючыя адчуванні?**

– Самы распаўсюджаны сімптом – частыя позывы да мочаспускання, якія часам праходзяць даволі балюча, з пачуццём палення. Хворага "пераследуе" адчуванне напоўненасці мачавога пузыра, пры мочаспусканні адчуваецца моцны боль у вобласці мочаспускальнага канала, мачавога пузыра і спіны. Асабліва гэтыя болевыя адчуванні характэрныя для жанчын: як ужо было сказана, мочаспускальны канал жанчыны значна шырэйшы і карацейшы, а гэта прамыя вароты інфекцыі.

Але далёка не ва ўсіх людзей назіраюцца інтэнсіўныя болі (рэзі, смыленне) пры гэтай паталогіі. Часам цыстыт можа выяўляцца толькі лёгкім дыскамфортам у ніжняй частцы жывата і лабковай зоне (цяжар, адчуванне распірання). Часцей за ўсё непрыкметна захворванне праходзіць у мужчын, а таксама ў пажылых людзей і дзяцей, у якіх аб распачатым захворванні можа сведчыць толькі тое, што пацыент часта бегае ў туалет.

**– Што дапаможа пазбегнуць хваробы?**

– Апаражняйце мачавы пузыр так часта, як вам трэба. Гэта асабліва важна, бо стрымліванне мочаспускання – адна з мноства прычын цыстыту. Сачыце за гігіенай, мыйцеся хоць бы раз у дзень. А калі цыстыт паўтараецца (рэцыдывуе), вам варта замяніць прыём ванны на душ.

Пасля мочаспускання жанчынам варта падмываць спачатку спераду, потым ззаду, каб знізіць верагоднасць траплення бактэрый з анальнай адтуліны ў мочаспускальны канал. Аддавайце перавагу баваўнянай ніжняй бялізне, а не сінтэтычнай. Старайцеся не насіць штаны ў абліпку. Заўважана, што нашэнне стрынгаў таксама можа правакаваць цыстыт. Апранайцеся па надвор'і, не пераахалоджвайцеся.

**Святлана МАЛЫШКА,**
**"Ганцавіцкі час".**


Фота artc.ru.

Жанчыны вельмі рызыкуюць, калі апранаюцца зімой дзеля прыгажосці, а не здароўя і камфорту.




Фота забяспечана Дзмітрыем БРЫШТЭНАМ

Помнік на брацкай магіле ў Радашкавічах.

# “Тут пахаваны 37 маладых салдат з Клецкага раёна”

МАЛАДЗЕЧНА

**У Радашкавічах ёсць помнік, на якім напісана: “Тут пахаваны 37 маладых салдат з Клецкага раёна”. Гісторык і краязнаўца з Клецка Андрэй Блінец зацікавіўся гісторыяй гэтага помніка.**

– Я звярнуўся да краязнаўца з Радашкавічаў **Дзмітрыя Брыштэна**, і ён мне распавёў гэту гісторыю, якой хачу падзяліцца з вашымі чытачамі.

Вясной гэтага года пошукавік групы ваеннай гісторыі “Рубон”, якая займаецца даследаваннем Другой сусветнай вайны, Дзмітры Брыштэн распавёў мне пра камень-валун у Радашкавічах, на вуліцы імя Браніслава Тарашкевіча, з мемарыяльнай шыльдай “Тут пахаваны 37 маладых салдат з Клецкага раёна, якія загінулі ў ліпені 1944 года”. Гісторыя ўзнікнення помніка выбіваецца са звыклага шэрагу.

У першыя дні ліпеня 1944 года праз Радашкавічы на захад адступалі калоны нямецкіх войскаў. Часам у абозах, побач з вайскоўцамі, ішлі цывільныя беларусы, гвалтоўна мабілізаваныя ў якасці абслугі і сарваныя з родных мясцін. Адзін такі абоз быў атакаваны з паветра савецкай авіяцыяй.

**У выніку гарматна-кулямётнага абстрэлу на вуліцы мястэчка засталіся разбітыя павозкі, трупы коней, салдат і некалькіх дзясяткаў маладых хлопцаў у цывільнай вопратцы.**

Калі ўсё сціхла, немцы спешна падабралі сваіх салдат (забітых і параненых), а трупы цывільных пакінулі на вуліцы разам з застрэленымі коньмі. Маўляў, няхай пра іх мясцовыя клапоцяцца.

3 ліпеня 1944 года Радашкавічы былі вызвалены савецкімі войскамі. Вось тады мясцовыя жыхары сабралі трупы ў цывільным і пахавалі ў брацкай магіле. Ніхто не ведаў, што гэта за людзі і адкуль яны. Можна было толькі здагадвацца, што не па сваёй волі хлопцы апынуліся ў нямецкай калоне, дзе іх спасцігла смерць. Праз нейкі час, калі ўсё супакоілася, у Радашкавічы прыехалі некалькі чалавек з Клецка – бацькі, што шукалі сваіх сыноў. Знайсці іх жывымі надзеі не было, таму прыехалі з гатовымі трунамі, спадзеючыся хоць целы завезці на радзіму. Магіла была раскрытая, але пазнаць каго-небудзь не атрымалася, трупы пачалі раскладацца. Немагчыма было вызначыць ні рысы твараў, ні колер вачэй ці валасоў. Толькі аднаго хлопца бацька здолеў пазнаць па апранутай на ім кашулі. Сёння нельга ў дэталях аднавіць падзеі тых часоў, але можна дапусціць, што з гутарак, якія адбываліся паміж мясцовымі і прыезджымі, стала вядома паходжанне загінулых – усе яны былі ўраджэнцамі Клеччыны.

Перад тым як пакінуць Радашкавічы, кляччане паставілі на брацкай магіле сваіх землякоў драўляны крыж. Праўда, прастаяў ён нядоўга. Гісторыя гібелі юнакоў і хрысціянскі сімвал на гэтым месцы неяк не ўпісваліся ў афіцыйна прынятую версію вайны, таму мясцовыя ўлады знеслі крыж.

Неўзабаве яго аднавілі. Ініцыятаркай аднаўлення выступіла **Вера Андрэеўна Ніжанкоўская**, жонка вядомага беларускага навукоўцы Браніслава Тарашкевіча, які ў 1938 годзе загінуў у савецкай турме. Яна пераканала суседзяў, што магіла не павінна заставацца неабазначанай, і крыж паставілі зноў. Не цяжка здагадацца, што ініцыятыва прыйшлася не даспадобы ўладам, і крыж быў спілаваны. Яго яшчэ некалькі разоў спрабавалі аднаўляць, але марна, і ў рэшце рэшт магіла аказалася ў зусім занядбаным стане, паступова зарастаючы хмызняком.

Хто ведае, можа, да нашых дзён яе сляды зусім згубіліся, калі б не **Ганна Васільеўна Беланоўская**, якая ў 1980-я гады пераехала ў Радашкавічы. Ад сведкаў яна пачула пра падзеі лета 1944 года і энергічна ўзялася за добраўпарадкаванне пахавання. Арганізавала мясцовых школьнікаў, якія высеклі хмызняк і зрабілі невялікі крыж. А на пачатку “нулявых” Ганна Васільеўна ўсталявала на магіле камень, на якім трохі пазней з’явілася мемарыяльная шыльда.

На сённяшні момант магіла добраўпарадкаваная, хаця па-ранейшаму не мае пашпарта і ахоўнай зоны. Дзмітры Брыштэн прыцягнуў увагу мясцовых улад і ваеннага камісарыяту да гэтай праблемы, ідзе праца над наданнем магіле статуса воінскага пахавання.

На жаль, невядомыя ні імёны хлопцаў, якія загінулі ў Радашкавічах, ні іх гісторыя.

Рызыкну агучыць сваю версію таго, што адбылося.

**Вясной 1944 года акупацыйныя ўлады распачалі мабілізацыю ў так званыя “сапёрныя батальёны”, якія павінны былі выкарыстоўвацца ў якасці працоўнай сілы ў прыфрантавой паласе.**

Ёсць дакладныя звесткі пра тое, што акцыя праводзілася і на тэрыторыі сённяшняга Клецкага раёна. Таксама вядома, што частка прызыўнікоў любымі шляхамі старалася пазбегнуць такой службы. Юнакі ўцякалі нават з часова прызначаных для раскватаравання казармаў, але так пашанцавала далёка не ўсім. Да таго ж некаторыя ішлі ў новаствораныя батальёны па заданні партызанскага камандавання, каб весці сярод байцоў прапагандысцкую работу. Значная колькасць кляччан была накіраваная акупантамі ў Барысаў, дзе дыслакаваўся адзін з батальёнаў. Да самага канца акупацыі “сапёры” не атрымалі формы і заставаліся ў цывільнай вопратцы. З пачаткам адступлення нямецкай арміі будаўнічыя аддзелы былі вымушаныя ісці разам з імі: нехта баяўся абвінавачанняў у супрацоўніцтве з акупантамі, нехта спадзяваўся ўцячы бліжэй да родных мясцін. Натуральна, што землякі стараліся трымацца разам, тым больш, што роты і звязы сапёрных батальёнаў камплектаваліся па тэрытарыяльным прынцыпе. Што калі адна такая група стала ахвярай авіяналёту ў Радашкавічах? Гэта дазваляе растлумачыць і тое, чаму юнакі апынуліся ў нямецкім абозе і чаму на іх не было ваеннай формы, і тое, якім чынам кляччане аказаліся так далёка ад родных мясцін.

Ёсць надзея, што пашанцуе дазнацца іншыя падрабязнасці гэтай гісторыі. Пра яе павінны былі расказваць, і нехта, пэўна, ведае больш, чым напісана аўтарам гэтых радкоў. Сёння мае значэнне любая дэталь, любая дробязь.

**Андрэй БЛІНЕЦ,**
**краязнаўца, гісторык, Клецк.**

## КАЛЯНДАР

### 17 СНЕЖНЯ

**1891.** Нарадзіўся **Андрэй Цікота** (хутар Плавушка, цяпер Смаргонскі раён), рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, генерал ордэна марыянаў, адзін з пачынальнікаў беларускага хрысціянска-дэмакрытачнага руху і ўпарты змагар за нацыянальнае ўсведамленне беларусаў. Пачатковую і сярэднюю адукацыю атрымаў у Ашмянах. Душпастырскую дзейнасць распачаў у Маладзечне (1917-18). У 1933 быў абраны генералам ордэна айцоў марыянаў, увесь час працягваў апекаваць рэлігійныя і адукацыйныя ўстановы Друі. Там за гады знаходжання ён заснаваў некалькі пачатковых школ, а затым і гімназію імя Стафана Баторыя. У 1939 быў прызначаны Апостальскім адміністратарам для каталікоў усходняга абраду ў Маньчжурыі. 28 верасня 1949 быў завочна абвінавачаны ў арганізацыі тэрарыстычнай групоўкі ў ліцэі Святога Мікалая ў Харбіне, антысавецкай агітацыі і шпіянажы на карысць Ватыкана і Японіі. Памёр у зняволенні 11 лютага 1952 года.

**1886.** Нарадзіўся **Мікола Равенскі**, кампазітар, фалькларыст, аўтар беларускага гімна “Магутны Божа”.

### 18 СНЕЖНЯ

**1934.** Памёр Альбін Становіч, грамадска-культурны дзеяч, кампазітар, музычны педагог, публіцыст. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.



**1973.** Пётр Клімук стаў першым беларусам, што паляцеў у космас (потым здзейсніў яшчэ два палёты).

### 20 СНЕЖНЯ

**1910.** Нарадзіўся **Вітаўт Тумаш** (в. Гірсталіца, цяпер Вілейскі раён), грамадскі дзеяч, медык, скарынaзнавец, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША.

### 20 СНЕЖНЯ

**1796.** Нарадзіўся Тамаш Зан (в. Мясата, цяпер Маладзечанскі раён), удзельнік вызваленчага руху, філамат, прыродазнавец, літаратар.

### 21 СНЕЖНЯ

**1899.** Нарадзіўся **Мікалай Гусеў**, беларускі жывапісец, графік, педагог. Аўтар вывы сцяга БССР, мадыфікаванай версія якога цяпер з’яўляецца афіцыйным сцягам РБ. Памёр у 1965 годзе.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**



# ПРОСТЫЯ РЭЧЫ



Аўтар праекта
Аксана ЯРАШОНАК.

“Рэгіянальная газета” працягвае праект “Простыя рэчы”. Штомесяц мы будзем распавядаць аб прадметах, якія маглі б даўно стаць музейнымі экспанатамі. Але не сталі. Бо, як мы ўпэўніліся, і сёння ёсць людзі, якія карыстаюцца імі. Пра такія рэчы і іх гаспадароў мы раскажам у праекце. Можа, вы, шаноўныя чытачы, засцілаеце падлогу саматканымі бабулінымі палавікамі ці рэжаце траву для жывёлы ў сячкарні? А можа, нехта цішком тчэ на кроснах?

Тады тэлефануйце нам на нумар 8 (0176) 53-78-06, і мы раскажам вашу гісторыю. Галоўнае, каб гэта рэч не была музейным экспанатам, а і сёння служыла вам па прызначэнні.

# Як у вілейскай сям'і адрадзілі традыцыю чаявання з самаварам

ВІЛЕЙКА

**Сёння герой нашых “Простых рэчаў” – самавар з Вілейкі.**

Яго набылі ў рускім горадзе Трубачэўску. Дзесяцігоддзямі карысталіся ім у сяле Семячкі, што на Браншчыне. А цяпер самавар распальвае сталічны хлопчык **Арцём**, калі прыязджае ў Вілейку ў госці да сваёй бабулі **Вольгі Коласавай**.

А бабуля цану старым рэчам ведае, як ніхто. Бо Вольга Аляксандраўна – старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.

З ёй мы сустрэліся ў Вілейцы на вуліцы Стаханаўскай. У “летнім” доме – у рамках вышыванкі і старыя фотаздымкі. Тут жылі свёкар і свякроў Вольгі Аляксандраўны, якія ў 1986-м годзе пераехалі ў Вілейку з Браншчыны.

## Рэчы, што нельга ні аддаць, ні прадаць

– Як толькі прыйшла працаваць у музей, шмат старых рэчаў аднесла туды, – прыгадвае Вольга Аляксандраўна. – Несла вышыванкі, саматканыя рэчы, зробленыя мамай, стары посуд. А потым сказала сама сабе: спыніся!

На думку Вольгі Коласавай, у кожнай сям'і павінны быць рэчы, якія нельга ні аддаць, ні прадаць. Іх трэба захоўваць для нашчадкаў.

Адной з такіх рэчаў у сям'і Коласавых з'яўляецца самавар. Па назіраннях Вольгі Аляксандраўны, рэч для беларускіх вёсак зусім не характэрная.

Мая субяседніца, якая нарадзілася і вырасла ў вёсцы на Вілейшчыне, распавяла, што у родных мясцінах чай ніколі не пілі. Таму ў самавары не было патрэбы.

## Быў паказчыкам інтэлігентнасці і заможнасці

А належаў самавар свёкру і свекрыві Вольгі Аляксандраўны. Бацькі мужа жылі на Браншчыне, у сяле Семячкі Трубачэўскага раёна. Па словах Вольгі Аляксандраўны, у Расіі самавар быў паказчыкам заможнасці, інтэлігентнасці.

**Міхаіл Коласаў**, муж маёй субяседніцы, і два яго браты сапраўды гадаваліся ў інтэлігентнай сям'і. Іх бацька **Павел Коласаў** нарадзіўся і амаль усё жыццё пражыў у сяле Семячкі. У 1939 быў прызваны ў армію, прайшоў вайну, пасля скончыў настаўніцкі інстытут, ажаніўся.

У сяле працаваў старшынёй мясцовага калгаса, бо да пэўнага часу тут не было адукаваных людзей. Потым – дырэктарам школы, настаўнікам. Свёкар быў вельмі адукаваны, шмат чытаў кніг і газет.

Ён і набыў самавар. Было гэта адразу пасля вайны ў Трубачэўску. Вольга Коласава мяркуе, што і выраблены ён быў у пасляваенныя гады. Зроблены самавар на вядомым заводзе ў Туле, пра што сведчыць кляймо знізу самавара.

Свякроў **Анастасія Калінаўна** працавала швачкай. Шыла адзенне для ўсяго сяла. А яшчэ была добрай трўніцай, таму чаі ў сям'і былі толькі з траў.

## Пяць літраў чаю штовечар

У 1970-я гады будучы муж Вольгі Аляксандраўны Павел скончыў політэхнічную акадэмію і па размеркаванні трапіў на будаўніцтва Вілейскага вадасховішча. У 1977 годзе Вольга Аляксандраўна выйшла замуж за Паўла. З тых часоў штогод маладая сям'я на адпачынак летам спачатку самі, а потым з дзецьмі ездзіла на Браншчыну.

Штовечар у садзе свёкра і свекрыві распальвалі самавар і накрывалі стол для чаявання. Сядзелі доўга, пакуль не пачынала цямнець, размаўлялі, дзяліліся ўспамінамі пра жыццё. Чаю хапала. Самавар жа разлічаны на пяць літраў вады.

Гэта традыцыя штовечаровага чаявання здзіўляла і захапляла госцю з Беларусі:

– У іх чай па вечарах быў звычайнай працэдурай кожны дзень. А ў маёй роднай вёсцы на Вілейшчыне ніколі не пілі ні чай, ні каву. Толькі сырадой ды кіслае малако, якое называлі “кісляк”.

## Масла да печыва везлі з Вілейкі

Да чаю свякроў часта пякла ў печы пірагі, булкі, пячэнне. А вось масла заўсёды прывозілі з Беларусі сын з нявесткай.

– У 1970-1980-я гады на Браншчыне добрага масла было не купіць, – прыгадвае Вольга Аляксандраўна. – А ў нас малочныя прадукты заўсёды былі якасныя. Таму везлі масла кілаграмы два.

Сёння, гледзячы на гэты самавар у хаце мужавых бацькоў, Вольга Коласава прыгадвае сяло Семячкі, незвычайна вялікае у параўнанні з беларускімі вёскамі, прыгожы дом мужавых бацькоў, узгоркавую мясцовасць навокал.

Па словах Вольгі Аляксандраўны, самавары і сёння цэняцца сярод калекцыянераў. Асабліва каштоўнымі лічацца менавіта кранікі.

Багатая калекцыя самавараў і ў вілейскім музеі: іх тут каля 30. Ладзілі нават адмысловыя выставы.

## Як самавар пераехаў у Вілейку

У 1986 годзе бацькі мужа вырашылі пераехаць у Вілейку.

– Выбіралі паміж Беларуссю і Эстоніяй, дзе ў Таліне жыў іх другі сын, – кажа мая субяседніца, – але Беларусь яны заўсёды вельмі любілі, таму вырашылі ехаць сюды.

Тут, на Стаханаўскай, набылі дом, перавезлі маёмасць, у тым ліку і самавар. Чаявалі з ім і ў Вілейцы аж да 2007 года. А калі свёкар памёр, самаварам карыстацца перасталі.

Пакуль аднойчы дзевяцігадовы ўнук Вольгі Аляксандраўны Арцём не знайшоў яго і не распытаў бабулю пра тое, як дзейнічае гэты цікавы, невядомы дагэтуль хлопцу, посуд.

**Бабуля паказала Арцёму, як і мне падчас нашай сустрэчы, куды трэба заліваць ваду, куды класці і як распальваць дробныя трэсачкі.**

Распавяла, што наверх на самавар ставілі чайнік з заваркай. Калі вада кіпела, маленькая накрыўка зверху пачынала бразгатаць. А каб наліць кіпень сабе ў кубак, трэба павярнуць кран.

## Стары самавар захапіў дзевяцігадовага хлопчыка

Сталічнага хлопчыка тэхналогія захапіла. Цяпер кожнае лета на адпачынку ў бабулі сям'я не толькі смажыць традыцыйныя шашлыкі, але п'е чай, які гатуе Арцём у старым прадзядулевым самавары.

– Дзеці кажуць, што чай з самавара ні чым не адрозніваецца ад таго, што прыгатаваны ў звычайным электрычным чайніку, аднак мне ён падаецца куды смачнейшым, – дзеліцца Вольга Коласава.

Гэта, па яе словах, як параўноўваць страву, прыгатаваную ў печы, са стравай з газавай пліты.

На думку Вольгі Аляксандраўны, тут вельмі важны сам працэс прыгатавання. Гэта вам не сучасны прыгожы, але без гісторыі, чайнік з падсветкай, дзе толькі кнопку дастаткова націснуць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Ля самавара Вольга Коласава прыгадвае сямейныя падарожжы на Браншчыну.

# “Яна ж была такая маладая і, напэўна, ні ў чым не вінаватая”

## Жыхары сяла Паўлаўка ў Казахстане шукаюць сваякоў віляйчанкі, пахаванай тут на мясцовых могілках у 1944 годзе

ВІЛЕЙКА

**На мясцовых могілках у сяле Паўлаўка, што ў Паўладарскай вобласці ў Казахстане, ёсць магіла, дзе ў 1944 годзе пахавалі жанчыну з Вілейкі і, магчыма, яе нованароджаную дачку.**



Фота забяспечанае Галінай ІЛЬІНОЙ.

Галіна Ільына з Новасібірска шукае сваякоў віляйчанкі, пахаванай у Казахстане ў 1944 годзе.



Фота забяспечанае Галінай ІЛЬІНОЙ.

Магілку віляйчанкі, што ў сяле Паўлаўка ў Казахстане, больш за 70 год дагледаюць мясцовыя жыхары.

“Марыя Фабісяк 1919 год – 1944 год. Вілейка. І Ева” – гэты надпіс ужо дрэнна захаваўся праз дзесяцігоддзі, аднак прачытаць яго можна.

Пра магілу нам распавяла ўраджэнка сяла **Галіна Ільіна**. Галіна нарадзілася ў гэтых мясцінах. Цяпер жыве ў Новасібірску. Тут працуе бібліятэкаркай у школе №180. Але па-ранейшаму бывае ў родным сяле і цікавіцца яго гісторыяй.

Па яе словах, магілу ўвесь час даглядалі мясцовыя жыхары. Шмат гадоў яе прыбірала пенсіянерка **Еўдакія Дзегцярова**. Цяпер яна памерла, а даглядаць за магілай наказала сваёй дачцэ **Валянціне Арчакавай**, што тая і робіць. Пры жыцці Еўдакія распавядала, што была знаёмая з пахаванай тут Марыяй.

– Падчас вайны да нас у сяло шмат прывозілі рэпрэсаваных украінцаў, палякаў, чачэнцаў, немцаў, інгушаў, карэйцаў, іранцаў, – распавяла карэспандэнту Галіна. – Старыя жыхары расказвалі, што гэтыя людзі знаходзіліся ў цяжкіх умовах: антысанітарыя, моцныя маразы, адсутнасць самых простых бытавых умоў, недахоп ежы. Таму не дзіўна, што маладая жанчына з Вілейкі і яе дзіця памерлі пры родах.

Еўдакія Дзегцярова, якая ў 1940-я сама была маладой дзяўчынай, сябравала з Марыяй Фабісяк. Разам дзяўчаты працавалі ў мясцовым калгасе імя Будзённага. Тут працавалі ўсе рэпрэсаваныя. Для іх была асаблівая жорсткая дысцыпліна.

Са слоў Еўдакіі вядома, што Марыя Фабісяк была полькай і яе прывезлі ў Паўлаўку ў 1940 або 1941 годзе. Памерла яна ці то ў час родаў, ці ад выкідышу. А Ева – імя яе ненароджанай або нованароджанай і памерлай пра народжанні дачкі.

– Жанчыне было ўсяго 25 гадоў, – кажа Галіна Ільіна. – Такая маладая і, хутчэй за ўсё, ні ў чым не вінаватая. Магчыма, яе родныя з Беларусі да сённяшняга дня шукаюць яе. Хацелася б знайсці некага са сваякоў жанчыны.

Па словах Галіны, іх сяло Паўлаўка створанае ў Казахстане на пачатку 20 стагоддзя ўкраінцамі. Ад 2006 года іншая назва сяла – Каныр Азек.

У інтэрнэце на сайце “Мемарыял” ёсць некалькі чалавек з такім прозвішчам. Некаторыя з іх сапраўды з Беларусі. Аднак Марыі Фабісяк у гэтым спісе мы не знайшлі. Няма яго і ў кнізе “Памяць. Вілейскі раён” у раздзеле “Вернутыя імёны”.

У той жа кнізе аўтары пішуць, што ўжо ў 1930-я гады рэпрэсавалі тых жыхароў Вілейкі, якія пасля 1921-га апынуліся на савецкай тэрыторыі. Пасля 1939 года НКВД пачалі арыштоўваць у заходніх абласцях Беларусі прадстаўнікоў інтэлігенцыі, чыноўнікаў польскай адміністрацыі, вайскоўцаў, памешчыкаў, асаднікаў, леснікоў. Рэпрэсіі не спыняліся і ў перадваенныя дні і ў часы вайны. У 1940-я гады былі тры этапы рэпрэсій у Беларусі. Верагодна, што віляйчанка Марыя Фабісяк якраз патрапіла ў адзін з гэтых этапаў.

Калі сярод нашых чытачоў ёсць людзі, якім нешта вядома пра Марыю Фабісяк з Вілейкі, тэлефануйце нам у рэдакцыю на нумар **8 (0176) 53-78-06**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У маладзечанскай бібліятэцы паставілі ёлку... з энцыклапедый

МАЛАДЗЕЧНА

**У фае бібліятэкі “Верасок” з’явілася ёлка з кніг.**

Ідэю зрабіць такое незвычайнае дрэва падала дырэктар бібліятэкі **Марыя Стасяловіч:**

– Як толькі атрымалі распараджэнне райвыканкама пра ўпрыгожванне ўстаноў горада, пачалі думаць з калегамі ў гэтым накірунку. У дапамогу нам быў інтэрнэт.

У інтэрнэце дырэктар знайшла ёлку з кніг, падзялілася з супрацоўнікамі. Тыя падтрымалі ідэю.

Такое навагодняе дрэва з’явілася ў бібліятэцы ўпершыню. Яго зрабілі з энцыклапедый.

Стараліся падбіраць кнігі аднолькавага фармату.

Пра тое, як аформіць кніжную ёлку, таксама раіліся доўга.

У выніку дрэва ўпрыгожылі саматробнымі сняжынкамі, бліскучымі пацеркамі і стужкамі з беларускім арнаментам.

Пад ёлку па традыцыі паставілі падарункі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Зрабі падарунак сабе і бацькам – атрымай добрыя адзнакі за першае паўгоддзе

**Да канца другой чвэрці застаюцца лічаныя дні.**

Нехта з вучняў уздыхае з палёгкай: амаль па ўсіх прадметах ацэнкі за чвэрць вядомыя, таму можна расслабіцца.

Але ў кагосьці пытанне спрэчнае. Таму канец чвэрці – час найбольш напружаны. Бо часта атрыманая дзявятка або дзясятка можа стаць вырашальнай пры выстаўленні адзнакі за чвэрць.

А яшчэ добрая адзнака можа вырашыць, што вы атрымаеце за выдатную вучобу ад рэдакцыі “Рэгіянальнай газеты”: сувенірную прадукцыю, рукзак, паход у піцэрыю ўсім класам або наш галоўны прыз – планшэт.

Таму расслабляцца ўсё ж не варта. А мы гатовыя прыйсці ў ваш клас, распавесці пра конкурс і падбадзёрыць.

Да таго ж у пераднавагоднія дзянькі ўсе настаўнікі, напэўна, такія добрыя! Таму карыстайцеся момантам.

Атрымлівайце 9 і 10 па любых прадметах, запаўняйце бланкі з газеты, дасылайце ў рэдакцыю.

Раскажыце пра конкурс у сваіх класах. Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа!

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Удзельнічаць у акцыі могуць вучні любой школы ці гімназіі рэгіёна, якім споўнілася 12 год.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за гэты навучальны год. На кожную адзнаку трэба асобны бланк. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Вілейку прывезлі баявую машыну дэсанта

ВІЛЕЙКА

Баявую машыну дэсанта, якую плануюць паставіць у Вілейцы, прывезлі ў горад увечары ў пятніцу, 8 снежня.

– Якраз надарылася магчымасць прывезці машыну ў горад. Быў спадарожны рэйс, – распавёў карэспандэнту “Рэгіянальнай газеты” **Сяргей Паўлоўскі**, начальнік аддзела культуры, ідэалагічнай работы і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама.

Машыну прывезлі з вайсковай часці Любанскага раёна. Пафарбуюць яе ўжо тут, на месцы, навучэнцы Вілейскага дзяржаўнага каледжа.

Дзе паставяць, пакуль не вырашылі. Пад машыну плануюць заліць невялікі пастамент.

Па словах Сяргея Паўлоўскага, у рэгіёне такія машыны ёсць. Падобная стаіць у Мядзеле.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У івянецкім музеі пакажуць “Цара Ірада”

ВАЛОЖЫН

Івянецкі музей традыцыйнай культуры ладзіць батлеечнае відовішча.

Ад 15 снежня да 15 студзеня па папярэдняй замове дзецям і дарослым прапануюць спектакль “Цар Ірад”.

У музеі распавялі, што лялькі для спектакля і саму батлейку супрацоўнікі зрабілі самі. Тэлефоны для даведак: **8 (01772) 53541, 53583, +375 29 5638493.**

## У Ашмянах адкрылі новы будынак тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання

АШМЯНЫ

15 снежня ў Ашмянах на вуліцы Заходняй, 11 адкрылі новы адміністрацыйны будынак тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Ашмянскага раёна.

На адкрыцці прэзентавалі работу цэнтра, распавялі аб супрацоўніцтве з грамадскімі арганізацыямі, правялі майстар-класы па ДПМ і скандынаўскай хадзе.

У новым будынку размесцяца аддзяленні пярвічнага прыёму, інфармацыі, аналізу і прагназавання, тэрміновага сацыяльнага абслугоўвання, сацыяльнай дапамогі дома, сацыяльнай рэабілітацыі, а таксама адміністрацыя ўстановы.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі “Дзясятачка” (№50)

1. Імя, прозвішча____________________
2. Дата нараджэння ____________________
3. Клас
   Школа____________________
4. Населены пункт____________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________________
7. Якую адзнаку атрымаў (“9” ці “10”)__________
8. Дата атрымання адзнакі ____________________
9. Імя, імя па бацьку ____________________
10. Прозвішча настаўніка ____________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________________
12. Подпіс настаўніка____________________

Фота забяспечана хакейным клубам "Дынама-Маладзечна"

Яраслаў Чупрыс правёў "уцягвальную" трэніроўку з "дынамаўцамі".

# "Ён мне каньком нагу рассек",

## або Як прайшла трэніроўка ХК "Дынама-Маладзечна"

МАЛАДЗЕЧНА

**Непрацяглы адпачынак бела-сініх завяршыўся, і 12 снежня каманда прыступіла да трэніровак.**

Пасля паўзы дынамаўцы сабраліся на лёдзе практычна ў поўным складзе. Але пра тых, хто вярнуўся на лёд, раскажам крыху пазней. Па-ранейшаму з-за пашкоджанняў не змаглі прыняць удзел у трэніроўцы **Эдуард Грынь**, **Антон Елісеенка**, **Арцемій Чэрнікаў** і **Ілля Летаў**. Абаронца "зуброў", нягледзячы на пашкоджанне, на вячэрніх занятках прысутнічаў, назіраючы за аднаклубнікамі з-за шкла.

– Ілля, калі атрымаў пашкоджанне?

– Гэта здарылася, калі "Нёман" нам закінуў другую шайбу. Брамнік паехаў за вароты, але здарыўся няўдалы адскок ад шкла. Я стаў садзіцца пад шайбу, сутыкнуўся з брамнікам, і, так атрымалася, ён мне каньком рассек нагу. Убачыў на гетрах кроў, нага адразу здранцвела, і я перастаў яе адчуваць.

– Што вядома аб тэрмінах аднаўлення? Калі пабачым цябе на лёдзе?

– Стан ужо добры. Збольшага нічога не баліць. Нагу зашылі. Цяпер праходжу лячэнне, аднаўляюся. Бліжэй да выхадных павінна ўжо ўсё зажыць. Здымуць швы, і тады можна выходзіць на лёд.

Акрамя Іллі, балельшчыкі "Дынама-Маладзечна" могуць парадавацца за **Віталя Кірушчанкава** і **Аляксандра Мацярухіна**. Нападнікі ўжо на ўсю моц трэніруюцца. Не выключана, што пасля снежаньскай міжнароднай паўзы мы ўбачым хлопцаў у матчах супраць "Юнацтва" і "Гомеля".

Трэнерскі штаб не нагружаў хлопцаў на вячэрняй трэніроўцы. Усё ж такі пасля перапынку галоўнае было зноў адчуць лёд. Аб тым, чым цяпер жыве каманда, распавёў **Яраслаў Чупрыс**.

– Была, так сказаць, трэніроўка, якая ўцягвала ў працоўную каляіну. Пабегалі трохі, пакаталіся, пагулялі. А ўжо ў сераду трэніроўка будзе нашмат цяжэйшая. Бо да Новага года ў нас яшчэ тры гульні – два матчы з "Юнацтвам" і адзін з "Гомелем". У гэтых сустрэчах нам трэба абавязкова перамагаць. Таму пакуль надаём увагу фізічнай падрыхтоўцы, а ўжо бліжэй да гульняў пойдуць тактычныя заняткі.

### Каляндар другой стадыі чэмпіянату

| Дата правядзення | Час сустрэчы | Дамашняя гульня | Гульня на выездзе |
|---|---|---|---|
| 23 снежня | 17:00 | Дынама-Маладзечна | Юнацтва |
| 26 снежня | 19:00 | Гомель | Дынама-Маладзечна |
| 28 снежня | 19:00 | Юнацтва | Дынама-Маладзечна |
| 9 студзеня | 19:00 | Дынама-Маладзечна | Гомель |
| 11 студзеня | 19:00 | Дынама-Маладзечна | Нёман |
| 15 студзеня | 19:00 | Шахцёр | Дынама-Маладзечна |
| 17 студзеня | 19:00 | Дынама-Маладзечна | Металург |
| 20 студзеня | 17:00 | Дынама-Маладзечна | Юнацтва |
| 23 студзеня | 19:00 | Дынама-Маладзечна | Шахцёр |
| 25 студзеня | 19:00 | Металург | Дынама-Маладзечна |
| 8 лютага | 19:00 | Гомель | Дынама-Маладзечна |
| 11 лютага | 17:00 | Дынама-Маладзечна | Нёман |
| 13 лютага | 19:00 | Дынама-Маладзечна | Гомель |
| 16 лютага | 19:00 | Нёман | Дынама-Маладзечна |
| 19 лютага | 19:00 | Шахцёр | Дынама-Маладзечна |
| 22 лютага | 19:00 | Дынама-Маладзечна | Металург |
| 24 лютага | 17:00 | Юнацтва | Дынама-Маладзечна |

**Наступны дамашні матч "Дынама-Маладзечна" згуляе 23 снежня супраць "Юнацтва". Пачатак паядынка ў 17:00. Запрашаем усіх падтрымаць каманду.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Прыходзьце на калядныя шахматы



МАЛАДЗЕЧНА

У нядзелю, 17 снежня, ладзіцца штогадовы калядны бліц-турнір.

Ён мае статус чэмпіянату горада Маладзечна па бліцу. Пачатак у **12:30**.

Запрашаюцца усе ахвотныя. Адрас: **Маладзечна, вуліца Забэйды-Суміцкага, 2.**

Уваход свабодны.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Грашовы аброк.
4. Сплаў некаторых металаў (золата, срэбра і інш.) з ртуццю.
5. Кампактная колькасць населеных пунктаў, якія месцам зрастаюцца і аб’ядноўваюцца ў складаную міжкампанентную сістэму.
6. Выцягнутая рухомая насавая частка морды.
8. Хітры, спрытны ашуканец, несумленны ў адносінах з людзьмі чалавек.
10. 60 секунд.
12. У 1775 годзе сакратар Парыжскай акадэміі навук, амаль нягледзячы, адхіліў пачак вынаходніцтваў і спаліў іх. Так пачалася “змова маўчання”, якая пасля ахапіла ўсе вучоныя ўстановы свету. Прычынай гэтаму стала вынаходніцтва “вечны ...”.
15. Англічане і немцы кажуць “дзень сонца”. А што кажам мы?
17. Адпавядае выразу: хоць бы што.
21. Рэлігійная плынь, варожая дагматам пануючай рэлігіі.
22. Геадэзічны інструмент для пабудовы на мясцовасці вуглоў пэўнай велічыні.
24. Арганізмы, якія не могуць жыць без свабоднага кіслароду.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Якія спартсменкі лепш за іншых сочаць за фігурамі?
3. Твор Элізы Ажэшкі, які пачынаецца фразай: “Было яму за сорак”.
7. Хімічны элемент, удушлівы газ жоўта-зялёнага колеру, які выкарыстоўваецца як абеззаражвальны і атрутны сродак.
9. Адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка.
11. Сталіца Нікарагуа.
13. Сябелюбства.
14. Актыўны абаронца вучэння, ідэі, парадкаў.
16. Старажытныя егіпцяне, вяртаючыся з палону, вялі за сабой палонных. Іх называлі “жывыя забітыя”. Якога слова тады яшчэ не існавала?
18. Першае выступленне артыста ці пачатак шашачнай і шахматнай партыі.
19. Вучэнне аб спадчынным здароўі людзей і шляхах паляпшэння яго спадчынных уласцівасцей; выкарыстоўвалася рэакцыянерамі і расістамі, каб абгрунтаваць і апраўдаць панаванне эксплуататарскіх класаў і расавую дыскрымінацыю.
20. Адхіленне, адступленне ад галоўнай тэмы з мэтай падрабязней высветліць пабочнае пытанне.
23. Размер заработнай платы, устаноўлены ў адпаведнасці з пасадай работніка.

## Мінскі абласны драматычны тэатр



## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”



## ГАРАСКОП 15-21 СНЕЖНЯ



**АВЕН.** Магчыма, вы неспадзявана паедзеце куды-небудзь адпачываць, Нейкая нагода для паездкі знойдзецца. Будзьце гатовыя хутка сабраць чамаданы. Вам даецца магчымасць знайсці ўплывовых знаёмых, здольных унесці прыемныя перамены ў ваша жыццё.



**ЦЯЛЕЦ.** Вы стварылі ўтульнае гняздзечка, спрыяльную атмасферу і можаце адчуваць сябе уладаром сітуацыі, але калі думаць толькі пра тое, што вы можаце ўсяго дамагчыся і ўсё вырашыць і пры гэтым не прымаць ніякіх дзеянняў, то ў хуткім часе сітуацыя складзецца так, што вам прыйдзецца дзейнічаць і прымаць рашэнні.



**БЛІЗНЯТЫ.** Магчымыя невялікія канфлікты і расходы сіл па дробязях. З-за гэтага справы не будуць рухацца з месца, а вось сілы будуць сыходзіць вельмі хутка. Але павышаецца ваша эмацыйнасць і магчымасць кіраваць сваімі пачуццямі, што дазволіць вам выйсці на патрэбны шлях.



**РАК.** Падзеі не прадказваюць вам прамых заробкаў або поспеху ў каханні, але павышаная энергетыка, уменне прасоўвацца наперад і дасягаць пастаўленых мэтаў можа прывесці і да таго, і да іншага. Цяпер добра ідуць новыя справы, але для гэтага дзейнічайце не стандартна. Зрабіце незвычайны крок і тым самым злавіце два, а то і тры зайцы адначасова.



**ЛЕЎ.** Вам будзе цяжка прыняць рашэнне, зрабіць выбар. Перш за ўсё, гэта закране пытанні, звязаныя з фінансамі. У вас можа паўстаць некалькі ідэй, якія дазволяць вам дасягнуць поспеху, але выбраць адну з іх будзе не проста. Пабудзьце ў адзіноце, і вы знойдзеце патрэбнае.



**ДЗЕВА.** На вас без прычыны нойдзе нейкая маркота, празмерная жаласць да сябе і канцэнтрацыя на тым, што вы страцілі і чаго не змаглі дасягнуць. У хуткім часе гэта пройдзе, бо ў вашым жыцці ёсць людзі, на якіх вы заўсёды можаце разлічваць.



**ШАЛІ.** Дні будуць паспяховымі ў любым пачынанні. Значна павышаюцца вашы валявыя якасці, а таксама ўплыў на іншых людзей. Гэта дазволіць вам дамагчыся патрэбнага выніку як на працы, так і ў зносінах з іншымі людзьмі.



**СКАРПІЁН.** Вам будзе спадарожнічаць поспех у фінансах і любых камерцыйных пачынаннях. У вас ёсць магчымасць здабыць свет у душы, гэта значыць, прывесці свой стан да такога, калі ніякія знешнія падзеі не змогуць вас знерваваць і выбіць з каляіны. Для гэтага зусім не трэба дасягнуць усяго і прарабіць неймаверную працу. Бо спакой – гэта ўнутраны стан, а не знешні атрыбут.



**СТРАЛЕЦ.** Зоркі раяць вам заняцца справай, а не разважаннямі пра жыццё і пра тое, як дабіцца поспеху. Калі вы настроеныя працаваць і зарабляць, насіце рубіны, яны дапамогуць вашым планам увасобіцца ў жыццё.



**КАЗЯРОГ.** Многім з вас захочацца забаў. Але сачыце за бюджэтам. Вы можаце неапраўдана купіць нешта дарагое, выдаткаваць грошы на забавы, а потым пашкадаваць аб гэтым. Час спрыяльны для знаёмстваў, наладжвання новых сувязяў, у тым ліку і рамантычных.



**ВАДАЛЕЙ.** Ва ўсіх спраў, пачатых у гэты перыяд, вельмі спрыяльная перспектыва. Смела бярыцеся за любое пачынанне – вам цяпер усё па сілах.



**РЫБЫ.** Вы адчуеце гармонію з самім сабой і зможаце спакойна атрымліваць асалоду ад жыцця. У гэты час магчымыя розныя любоўныя прыгоды і часовыя захапленні, якія не прынясуць сур’ёзных пачуццяў, але дапоўняць радасную карціну дня.

Марыя УРБАНОВІЧ.

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 9 | 2 | 1 | |
| | 6 | | | | 3 | 4 | | |
| 4 | | 7 | | 2 | | | 8 | |
| | | 1 | | 5 | | 6 | | |
| | | | 9 | 7 | | 1 | | |
| | | | 2 | 3 | | 7 | | |
| | 7 | 4 | | | | 8 | 6 | |
| | | 5 | 4 | | 8 | | | 3 |
| | 8 | 9 | 3 | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ISSN 1991-7155
# Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015



## ● НАДВОР'Е

**16 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 / +2 | | +2 / +1 | | +1 / +2 | | 0 / 0 | |
| | 730 | ↖ 6 | 730 | ↗ 3 | 738 | → 4 | 739 | ↘ 4 |
| Вільня | +1 / +1 | | +1 / +2 | | +1 / +1 | | -2 / -1 | |
| | 733 | ↖ 6 | 735 | ↗ 5 | 745 | → 4 | 747 | ↘ 5 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.29
Захад 16.49
Даўжыня дня 7.20

Усход 7.06
Захад 16.13
Квадра 4

| Горад | Ноч | Дзень | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +2 | +2 | 738 | ↓ 1 |
| Гродна | 0 | +2 | 739 | ↗ 5 |
| Мінск | +2 | +1 | 730 | ↗ 3 |
| Магілёў | +3 | +1 | 737 | → 1 |
| Брэст | +1 | +3 | 739 | ↗ 4 |
| Гомель | +5 | +3 | 739 | ↓ 3 |

## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -25,2 °C у 1997 годзе
Максімальная тэмпература +8,3 °C у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8 мм у 1982 годзе
Паводле meteoinfo.by



## Чытайце праз тыдзень:

● 2018 – год Сабакі. Многія цяпер ужо прагназуюць, што гэты год будзе па-сабачаму добры. Прапануем вам успомніць, што адбывалася ў нашым рэгіёне ў гады Сабакі ў 20 стагоддзі. Мы разам з вамі вернемся ў 1946, 1958, 1970, 1982, 1994 і 2006 гады.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што вы ўжо зрабілі для падрыхтоўкі да Новага года?



**Яўген Мычко, менеджар аддзела продажу:**
– Паклапаціўся пра тое, каб да святаў супрацоўнікі нашай кампаніі атрымалі падарункі. Цяпер час падумаць пра блізкіх. Збіраюся набыць падарункі для родных і каханай дзяўчыны.



**Мікіта Анішчанка, вучань:**
– А што, не бачна? Гляньце, якія рожкі сабе набыў. Учора ў кватэры ўжо паставілі ёлку. Сёння набылі з мамай ёлачныя цацкі, будзем упрыгожваць.



**Яўгенія Цеслік, у дэкрэтным адпачынку:**
– Гэта першы Новы год, які будзем сустракаць з маленькім сынам. Ужо набылі яму касцюм пірата. Збіраемся на ранішнік.



**Анастасія Аўсюкевіч, навучэнка:**
– Пакуль толькі ўпрыгожыла свой пакой гірляндамі.



**Ягор Гарбуноў, аўтаслесар:**
– Яшчэ пакуль ніяк. Толькі грошы пасяпяваем здаваць дзецям у школу і ў садок на падарункі і на навагоднія прадстаўленні.



**Ангеліна Якімовіч, студэнтка:**
– Упрыгожыла да святаў кватэру. Адзначаць буду дома, з бацькамі. Хочацца, каб было прыгожа.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№50 (1181) 15.12.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1195 . Падпісана ў друк у 9.00 14.12.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.